# Самапомач Самаромаў

Беларуская Коопэратыўна — Гаспадарчая Часопісь

| Год V. | Вільня, Сакавік 1936 г. | № 3. |
|---|---|---|

*Хай злыдні над намі,*
*скрыгочуць зубамі*
*Любі сваю ніву, свой*
*край,*
*І, колькі ёсьць сілы,*
*да самай магілы*
*Ары, барануй,*
*засявай!*

ЯНКА КУПАЛА.



Усе вялікія падзеі народаў і ўсе цывілізацыі былі створаныя дабравольнымі стараньнямі аб'яднаных людзей... самапамачу.

Джордж РЭССЭЛЬ (Ірляндзец).



## ЗЬМЕСТ №3 (44)



## Ceny ŭ Vilni

*30.II.36. Ceny za 100 kilohram.*

**Zbožža.**

| | |
|---|---|
| Žyta . . . . . . . . . . . | 12.50—13.00 |
| Pšanica . . . . . . . . . | 18.25 - 19.50 |
| Jačmień na pansak . . . . . | 13.75—14 25 |
| Avios . . . . . . . . . . | 13.50—14 25 |
| Hračycha . . . . . . . . . | 14.75 - 15 00 |
| Muka pšaničnaja . . . . . . | 21.25—32.75 |
| Muka žytniaja da 50% . . . . | 2175 - 22 00 |
| Muka žytniaja da 65% . . . . | 19.00—19 50 |
| Muka razovaja da 95% . . . . | 16 00 - 16 25 |
| Votruby žytnija . . . . . . | 11 00 - 1125 |
| Votruby pšaničnyja . . . . . | 11.00—11 25 |
| Pialuška . . . . . . . . . | 22 00—22.25 |
| Vika . . . . . . . . . . | 20.75—21.00 |
| Haroch šery . . . . . . . . | 13.00 13 00 |
| Łubin sini . . . . . . . . | 9 50—10.00 |
| Siemia lannoje b.90% . . . . | 35 00—35.50 |
| Lon (vałakno) standaryzawany (za 1000 kilo) | |
| „ trepany, Vałožyn . . . . | 1310 — 1350 |
| „ „ Horadziej . . . . . | 1550 — 1590 |
| „ „ Miory . . . . . . | 1290 — 1330 |
| „ časany Harodziej . . . . | 18.60 — 1900 |
| Kudziela Harodziejskaja . . . | 1330—1370 |

**Małočnaje za 1 kilo (11.III 36)**

| | |
|---|---|
| Masła najlepšaje, I. sort za kil. ŭ hur. | 2.60—2 70 |
| „ „ „ „ „ u detalu | —3 00 |
| Masła stałovaje II sort za kilo ŭ hurcie | 2.45— 2.55 |
| „ „ „ „ „ u detalu | —2.80 |
| Syr litoŭski, za kilo ŭ hurcie . . | 1 50—2.20 |
| „ „ „ „ u detalu . . | 1.80—2.60 |
| Syr ementalski(švajc.)za kilo ŭ hurcie | 2.55— 2.65 |
| „ „ „ „ „ u detalu | —3.20 |
| Jajki, kapa . . . . . . . . . | 4 50—6.00 |
| „ - za štuku . . . . . . . | 8 — 11 hraš. |

**Miasnoje, za 1 kilo žyvoj vahi.**

| | |
|---|---|
| **Bydła:** | |
| stadniki II hat. (buhaj) . | 0.40— 0.45 |
| karowy, I hat. . . . . | 0.45 - 0.50 |
| „ „ II „ . . . . . | 0.40 - 0 45 |
| „ „ III „ . . . . . | 0.35—0.40 |
| cialaty II hat. . . . . | 0.45—0 50 |
| Švini . . . . . . . . . | 0.60 - 0.75 |

**Skury syryja.**

| | |
|---|---|
| Skury bydlačyja, za kilo . . . . . . | 0.80 |
| Skury cialačyja, za štuku . . . | 5.75— 6.00 |

---

# Samapomač

BIEŁARUSKI
KOOPERATYŬNA - HASPADARSKI
ČASAPIS.

Adres:
VILNIA (Wilno), Połackaja vul. 9—4.

# Самапомач

| Hod V. | Vilnia, Sakavik 1936 h. | Nr. 3 (44). |
|---|---|---|


*Kooperatyŭna-haspadarskija naviny.*

**Važnaje dla kooperatyvaŭ niasajuznych.** Pavodle zahadu staršyni Koop. Rady (Dz. Urz. M. Sk. № 6, poz. 178 i 179) apłaty niesajuznych kooperatyvaŭ za abviestku bilansu kooperatyva maje płacić biespasiaredna časapisu, u katorym abviaščaje, a nie praz Koop. Radu, jak było dahetul. Akramia taho źmienieny nastupnyja taksy: 1. pry abličańni zysku brutto (pavodle katoraha abličajecca składka) u kooperatyvaŭ vytvorčych možna adyjmać ad sumy vyručanaj ad pradažy vyrablenych tavaraŭ tolki košty kuplenaha syrca. 2. Kooperatyvy, jakija dajuć svaim siabrom pamieškańnie, apłačvajuć: a) kali majuć damy, 1 zł. 50 hr. u hod ad kožnaha pakoju i ad damoŭ, jakija budujucca, 2 zł. z tysiačy ad sumy pierabudavanaj u času spravazdaŭčym. b) Kali kooperatyvy damoŭ nia majuć, dyk płaciać 10 zł. u hod ad kožnaha siabry pakazanaha ŭ śpisie kooperatyvy ŭ dzień začynieńnia rachunkaŭ. 3. Vytvorčyja kooperatyvy płaciać składku 3 prac. ad sumy zysku brutto abličanaha sposabam pakazanym u p. 1. 4. Za apracavańnie statystyčnaje, za druk i abviestku bilansaŭ niesajuznyja kooperatyvy buduć płacić biespasiaredna časapisu „Spólnota Pracy".

Źmieny hetyja ŭchodziać u siłu ad 1 krasavika 1936 h.

**Likvidacyjnaja kooperatyva.** Heta nia žart niejki, a samaja praŭda. U sučasnaj Polščy hetulki jošć „kooperatyŭnych niabožčykaŭ", što dla „pacharon" ichnych Kooperatyŭnaja Rada dnia 16 sakavika sioł. pastanaviła sarhanizavać až asobnuju „Likvidacyjnuju Kooperatyvu": heta „kooperatyva" budzie... kasavać tyja kooperatyvy, jakija stajać niačynna.

**Haspadarčaja narada i kooperacyja.** Ad 28 lutaha da 2 sakavika sioł. ŭ Varšavie adbyvałasia het. zvan-ja „Vialikaja haspadarčaja narada," u jakoj uziali ŭčaście i pradstaŭniki kooperacyi. — Charakternym dla hetaj narady jošć toje, što ŭčaśniki jaje vykazalisia za „supracoŭnictva uradavych sfer i hramadzianstva," proci ahraničeńnia pryvatnaj inicyjatyvy i proci ŭsiakaha prymusu ŭ vytvorčaści i zbycie. Ab samoj-ža kooperacyi ministr finansaŭ Kviatkoŭski vykazaŭ pahlad, što kooperacyja mnoha moža dać, ale jej treba **„viarnuć daŭniejšyja prymiety pionerskija."** Praktyčna biaručy heta zajava ministra daje prava dahadvacca, što i ŭ uradavych kołach dosyć užo majuć „reformaŭ" kooperacyi, jakija z takoj siłaj pravodziła toje-ž ministerstva finansaŭ pad kiraŭnictvam papiaredniaha ministra Zavadzkaha. Lepš pozna jak nikoli...

**Zakon ab zabivańni žyvioły.** Sprava sposabu zabivańnia žyvioły apošnim časam była ŭ Polščy vielmi hałosnaj z taje pryčyny, što ŭ sojmie źjaviŭsia prajekt zakonu ab skasavańni hetak zvanaha rytualnaha zabivańnia žyvioły. Prajektadaŭcy paklikalisia pry hetym na toje, što rytualnaje zabivańnie vielmi niahumannaje (ciažkaje) i lišnie darahoje. Prajekt hety staŭsia ŭžo zakonam i budzie abaviazvać ad 1.1.1937 h. Pavodle hetaha zakonu žyvioła naahuł budzie zabivacca sposabam mechaničnym (nie rytualnym), ale dla žydoŭ, karaimaŭ i mahametan pakidajecca mahčymaść i zabivańnia rytualnaha, na košt samych-ža zaintérasavanych.

**10-yja ŭhodki śmierci R. Mielčarskaha.** 30 sakavika sioleta minaje 10 hadoŭ ad dnia śmierci zasłužanaha dla polskaj spažyvieckaj kooperacyi R. Mielčarskaha. — Na paru intensyŭnaj dziejnaści R. M—ha prypadaje skasavańnie Vilenskaha Sajuzu Kooperatyvaŭ i złučeńnie jaho z sajuzam polskim.

**U spravie drobnych ziamielnych arendataraŭ.** Pavodle paviedamleńnia Ministerstva Ziemlarobstva, arendatary ziamli, jakija padpadajuć pad zakon ab abaronie drobnych arendataraŭ, abaviazany płacić arendy za 1 ha ziamli 1-aj klasy nia bolš jak vartaść 150 klh. žyta. Taja-ž arenda z ziamli klasy nižejšaj jošć taksama nižejšaja, na 10 prac. ad kožnaj klasy ŭniz. — Vyšejšaja arenda jošć niazhodnaja z pravam.

## Źmiena sposabu prysyłańnia padpiski na „Samapomač".

Da hetaha numaru „Samapomačy" dałučajem „razrachunkovyja pierakazy," jakimi prosim prysyłać padpisku na naš časapis. Za pierasyłku hrošaŭ hetym pierakazam pošta ad vysyłajučaha ničoha nie biare. — Ad hetaha numaru pačynajučy kasujecca taksama dahetulašni sposab prysyłańnia na časapis hrošaŭ praz čekavaje konto P.K.O. № 180.485.

ADMINISTRACYJA
„SAMAPOMAČY."

# Сельская гаспадарка.

## Вясьняная праца каля ўправы кармовых і цукровых буракоў

Звычайна арэцца поле пад буракі увосені, увосені даецца пад буракі й хляўны гной. Зааранае ўвосені поле пакідаецца на зіму не забаранаваным, знача ў вострай баразьне. Робіцца гэта на тое, каб ральля добра перамерзла ды набрала ў сябе больш вогкасьці (вады). Гэтак звосені прыгатаваная ральля, пасьля зімы, вясной — рассыпаецца на дробныя грудочкі, робіцца пульхнай.

Гэткай ральлі вясной пераворываць ня трэба. Аднак, як толькі ральля абсохне, яе абавязкава трэба забаранаваць лёгкімі баронамі. Робіцца гэта дзеля таго, каб з зямлі не ўцякла (не выпароўвалася) зімовая вогкасьць, якая ёсьць вельмі патрэбнай для жыцьця й розьвітку буракоў.

Праўда, бываюць выпадкі, што прыходзіцца пераворываць поле пад буракі і на вясну. Бывае гэта тады, калі ральля ад дажджоў ці іншых прычын, вельмі саб'ецца і станецца цьвёрдаю.

Калі вясной часта ліе дождж, дык на забаранаваным пад буракі полі творыцца скарынка, якую трэба нішчыць новым баранаваньнем лёгкімі баронамі.

Насеньне цукровых буракоў гаспадары дастаюць ад тых цукраварняў, каторым па кантрахту дастаўляюць буракі. Насеньне ж буракоў кармовых гаспадары купляюць самі. Вельмі часта здараецца, што пры куплі насеньня кармовых буракоў гаспадары йдуць туды, дзе іх можна дастаць за танную цану. Гэта рэч зусім зразумелая, але не заўсёды разумная. На куплі таннага насеньня можна заашчадзіць найбольш пару злотаў, а страціць на горшым, менш ураджайным — дзесяткі або й соткі злотаў. Таму трэба купляць насеньне ня таннае, але добрае...

Сеюць буракі тады, калі зямля ўжо добра прагрэлася, але мае ў сабе йшчэ шмат зімовай вогкасьці... У садох звычайна ў гэту пару расьцьвітаюць сьлівы.

Высейваецца насеньне буракоў сухое або мочанае. Замочваецца насеньне на тое, каб буракі хутчэй усходзілі. Найпрасьцейшы спосаб намочваньня гэткі: бяруць дзежку, наліваюць у яе адну мерку гарачай вады а дзьве сьцюдзёнай і добра вымешваюць. У гэткую ваду ўпускаюць (затопліваюць) насеньне буракоў у мяшочку з рэдкай тканіны і — накрыўшы скора дзежку зьверху мяшкамі й дошкамі — пакідаюць мокнуць насеньне праз 24 гадзіны; потым мяшок выцягваюць, вешаюць, каб вада сьцякла і зараз-жа гэта насеньне высейваюць.

Высейваецца насеньне бурачанае звычайна з сеялкі, а калі яе няма — дык рукамі, у радкі, якія загадзя трэба зрабіць ручным значнікам*), або пад шнур. Радок ад радка мае быць на 40—45 см.

*) значнік — гэта вялікія граблі, у каторых зуб ад зуба стаіць на 40—45 см. (рэд.).

## Manapol na zbožža ŭ Čechasłavaččynie.

Ab hetaj spravie „Samapomač“ pisała letaś (№ 12). Varočajemsia da hetaha pytańnia jšče raz, bo jano zasłuhoŭvaje na bližejšaje zaznajamleńnie. Red.

Pamiž mnohimi sposabami, jakimi čałaviek zmahaŭsia i zmahajecca z sučasnym haspadarčym kryzysam, treba nazvać i manapol na zbožža. Ab hetym manapoli siańnia prychodzicca čuć z šmat miascoŭ. My tut dla prykładu paznajomimsia z manapolem na zbožža ŭ Čechasłavaččynie. Ale naŭpierad skažam kolki słoŭ ab manapolach ahułam.

Vot-ža manapol, u istocie svajej, aznačaje ahraničeńnie svabody dziejnaści čałavieka, pieravažna ŭ halinie haspadarčaj. Roznyja pryčyny spanukajuć ludziej zavadzić manapoli: u adnym miescy jany nakidvajucca ludziam źvierchu ŭładaj, a ŭ druhim takoha manapolu žadajuć ad ŭłady sami hramadzianie kraju. Manapol na zbožža ŭ Čechasłavaččynie naleža da hrupy hetaj apošniaj: zaviaści jaho damahałasia samo hramadzianstva, choć i nia było pry hetym poŭnaje zhody navat siarod samych ziemlarobaŭ. U ahulnym adnak prakanańni dabravolnaść manapolu na zbožža ŭ Čechasłavaččynie pryznajecca na hetulki, što navat sami pradstaŭniki klasy spažyŭcoŭ — a značyć ludziej, na katorych zdavałasiab niekaryść manapol byŭ zaviedzieny — zhodny ličyć jaho nie manapolem, a tolki **pryvilejem kazny** skuplivać zbožža ad svaich hramadzian. Ahuł adnak nazyvaje hetu čynnaść manapolem, dyk hetak budziem jaje nazyvać i my.

Kali havaryć ab sučasnym kryzysie ŭ ziemlarobstvie naahuł, dyk najbolš balučym jon tut pakazvajecca ŭ hetak zvanych „nažnicach“ pamiž cenami na ziemlaroskija i fabryčnyja pradukty. Hetyja nažnicy vielmi dušyli ziemlarobaŭ i ŭ Čechasłavaččynie. Choć ziemlarobstvam zajmajecca tut tolki kožny druhi čałaviek*), to

*) u nas z 10 čałaviek ziemlarobstvam zajmajecca 9.

Насеньня высейваецца на гэктар ад 20 да 35 кілёграмаў на глыбку 2 да $2^1/_2$ см.

Пры высейваньню дадаецца да насеньня буракоў на гэктар 4 6 кілёграмаў ячменю, які хутчэй усходзіць і азначае радкі, дзе ёсьць буракі.

Прад пасевам буракоў ральлю гнояць штучнымі (памоцнымі) гнаямі, паймення:

а) на полі непагноеным хлеўным гноем даюць на гэктар
100—150 клг. 15.5 проц. азотняку
200—300 клг. 16 проц. супэртомасыны
або 18 проц. супэрфосфату і
300—400 клг. 20 проц. паташнай солі.

б) на поле, пагноенае хлеўным гноем, даюць на гэктар:
50—100 клг. 15.5 проц. азотняку,
100—200 клг. 16 проц. супэртомасыны
або 18 проц. супэрфосфату і
200 клг. 20 проц. паташнай солі.

Гнаіць трэба:

а) азотняком і супэртомасынай за 4—5 дзён перад высевам насеньня буракоў,

б)супэрфосфатам і паташнай сольлю можна гнаіць прад самым высевам насеньня буракоў.

Азотняку й супэрфосфату разам у адзін дзень высяваць ня можна.

Азотняк, супэртомасыну й паташную соль—можна высейваць разам у адзін дзень, перамяшаўшы іх прад самым высевам.

Замест азотняку й супэртомасыны можна высяваць вясьняную супэртомосыну азотнякаваную, якая мае ў сабе: 9 проц. азоту, 12 проц фосфарнага квасу. Азотнякаванай супэртомасыны прад пасеву буракоў даюць на гэктар:

а) на полі без хляўнога гною—300 клгр.

б) на полі, пагноеным хляўным гноем, 200 кілё.

Азотнякаваную супэртомасыну трэба высейваць за 4—5 дзён прад высевам бурачанага насеньня.

Штучныя гнаі высейваюцца перш чым раўняецца поле й раздрабляецца культыватарамі ці цяжкімі баронамі пад пасеў буракоў. Робіцца гэта за тым, каб адным разам прыкрыць зямлёю высеяныя гнаі.

Калі пасьля культыватара ці цяжкіх барон астаецца на паверхні шмат большых грудак — тады прыходзіцца прыбіць ральлю йшчэ цяжкім гладкім валам, за каторым усьлед аднак трэба пусьціць і лёгкую барану, каб узварушыць верхні пласт зямлі. Робімо гэта дзеля таго, каб з прыбітай валам зямлі не выпароўвалася вогкасьць.

Высеенае насеньне буракоў трэба прыціснуць да вогкай (сырой) зямлі, каб яно хутчэй прарастала. Пры высейваньню сеялкай робіцца гэта дужа проста, — прычэпленым да кожнай семяводнай трубкі валкам. Калі-ж такіх валкаў (і наагул сеялак) няма, дык прыходзіцца прыбіваць засеенае поле звычайным гладкім валам, але ў гэтым выпадку поле будзе выпароўваць шмат вады.

Як толькі паўсходзіць ячмень, які высейваўся разам з насеньнем буракоў—трэба пачаць матыкаваньне поля ў радкох паміж калівамі (абыйшоўшага ячменю). Робіцца гэта на тое, каб зьнішчыць скарынку на паверхні грунту й гэтым самым даць доступ паветру да карэньчыкаў маладых буракоў ды зьберагчы вогкасьць у грунце.

Другою важнаю працаю каля буракоў ёсьць прарываньне (прарэджваньне). Прарываць буракі трэба тады, калі яны маюць

---

adnak abiadnieńnie ziemlarobstva ciahnuła za saboj u propaść nendzy i reštu nasielnictva—fabryčnych rabotnikaŭ, handal, ramiasło, klasu intelinienckuju i h. d. A heta tamu, što sielanin źbiadnieŭšy nia moh kuplać sabie, jak dahetul było, dobruju vopratku, abutak, chatniuju i haspadarskuju snaść, mašyny, štučnyja hnai i h. d. Kali-ž sielanin pierastaŭ kuplać, a vyvaz taksama pačaŭ viaznuć, dyk i fabrykam nia było dla kaho vyrablać tavary. A jak astanaŭlalisia fabryki, dyk prychodziła biezrabоćcie, a razam z hetym i pahroza ahulnaha niaščaścia.

Pry hetkich voś umovach žyćcia i naradžałasia ŭ Čechasłavaččynie dumka ab dabravolnym zaviadzieńni manapolu na zbažžavyja raśliny, pad katorymi było zaniata až 62 proc. ŭsiej vornaj ziamli. Na hety krok manapolu adnak tak skora i čechi nie rašalisia, bo heta jšło ŭrazrez z silna raźvitym indyvidualizmam českaha sielanina. Kali adnak pa doŭhich naradach svaich i zaprošanych z zahranicy specyjalistaŭ ŭ Čsl. Zieml. Akademji vyjaśniłasia, što lepšaha vychadu tymčasam niama, było pastanoŭlena zavieści manapol na try hady. Stałasia heta zahadam ułady z dnia 13 lipnia 1934 h. Pavodle hetaha zahadu, ad dnia 17 lipnia 1934 h. zavodziŭsia manapol na pšanicu, žyta, jačmień, avios i kukuruzu, na młynarskija vyraby z pieraličanych hatunkaŭ zbožža i na niekatoryja pašnyja pradukty (karmaviny). Zaviedzieny manapol mieŭ za zadańnie: **zapeŭnić zbyt** (rynak) na pieraličanyja pradukty i ŭstanavić na ich **ćviorduju canu.** Kab-ža na budučyniu nie nahramadžvalisia zapasy niepradajnaha zbožža, zakon pastanaŭlaŭ źmienšyć ahułam płošču zasievaŭ pad zbožža na 200.000 ha. Ad dnia 17.VII.34. kuplać i pradavać zmanapalizavanyja pradukty atrymała vyklučnaje prava tolki akcyjnaja supałka „Čechasłavackaje zbažžovaje tavarystva,“ u skład jakoha ŭvajšli pradstaŭniki samych ziemlarobaŭ (vytvorcaŭ), spažyŭcoŭ, młynarskaha promysłu i handlaroŭ zbožžam. Hetak sarhanizavanaje „Zbaž. T-va“ ŭziało na siabie abaviazak vykupu ŭsiaho zbožža, jakoje sami ziemlaroby ŭ naznačanym časie zarejestrujuć u hminach da pradažy. Ceny na heta zbožža, jak užo

# У садку вясной.

Каб праканацца, у якім дрэнным стане знаходзяцца нашыя сады, як яны запушчаны— досыць праехаць у якім хочачы кірунку 50—100 кілёмэтраў. З напатканых ста садоў можа знойдзецца адзін, які выглядае так, як трэба; рэшта-ж - гэта адно гора.

Каб зьмяніць гэтыя нашыя запушчаныя сады на прыгожыя, на высокаўраджайныя й даходныя, дзеля гэтага не патрэбны ані вялікія выдаткі і многа працы, а трэба мець толькі крыху добрай ахвоты і сьведамасьці. Кожны дзень досыць патраціць для малых садкоў 5—10 мінут, а для большых — паўгадзіны ці гадзіну часу — і садкі нашы стануцца не да пазнаньня: харошыя па выглядзе і даходныя ў гаспадарцы. Дык адкінемжа нашу нядбаласьць і зробім так, каб нашыя сады сталі ў адным радзе з найлепшымі на сьвеце!

Самыя галоўныя недахопы нашых садоў наступныя:

1. Густая пасадка пладовых дрэў.
2. У многіх садох паміж добрых дрэў пасаджаны нядобрыя, маладаходныя гатункі.
3. У маладых і старых дрэў кароны запушчаны, густыя, самі сабе шкодна заценяюць; сукі крыжуюцца, адзін з другога абдзіраюць кару. У старых дрэў шмат нявыразанага сухога суччა. Усё суччо, тонкае і грубое, як і сам пень, пакрыты рознымі паростамі - мохам і лішайнікамі, кара старая вісіць стрэп'ямі, несаскоблена; самыя дрэвы ў значным ліку дуплястыя і дуплы не заліты, расшчэплены і нязьвязаны.
4. Дрэвы ніколі ня белены вапнай і не абпырсківаны хімічнымі сродкамі проціў рабакоў.
5. Многія сады растуць на запушчанай пожні і ніколі ня ўгнаіваюцца; у тых-жа садох, дзе зямля абрабляецца, заўсёды кругі каля пня заросшы бываюць пустазельлем.

Пералічаныя недахопы трэба цяпер-жа адразу паправіць, бо іх моцна адчувае наш кішэнь.

**Прарэджваньне густых карон у садовых дрэваў.** Дзе сады загушчаныя, там ніколі ня можна мець пладоў добра вырашчаных і смачных. У нормальна заложаных садох яблыні і ігрушы ніколі ня будуць пасаджаны бліжэй дрэва ад дрэва ў квадрат, як восем з палавінай да дзесяцёх ($8^1/_2$ да 10) мэтраў.

У палове месяца сакавіка (марца), ячшэ ў канцы зімы, прыступаем да прарэджваньня карон пладовых дрэў і робім гэта да канца м-ца траўня (мая). Восеньню, перад наступленьнем маразоў і зімой у нашых кліматычных варунках абрэзку рабіць ня можна, бо яна тады шкодна адбіваецца на здароўі абрэзаных дрэў.

Выразаем у кароне ўсе сухія сукі, далей — усе сукі, што крыжуюцца паміж сабой і ўсе горшыя, што заценяюць карону. Піла да абрэзкі мусіць быць вострая, зрэз — гладкі. Пасьля пілы, зрэз трэба згладзіць вострым

---

па 3—4 лісточкі. Прарываюцца буракі так, каб адзін ад другога ў радку рос на адлеленасьці 20—25 см.

Падчас прарываньня гнояцца буракі вапнаванай 15.5 проц. салетрай, якой даюць на гэктар 100—150 кілё. Ня можна вапнаванай салетры пасыпаць на мокрыя лісточкі буракоў, бо яна іх тады разьядае (паліць).

Інж. А. Р. („*Сіль. Госп.*").

---

ūspaminałasia, ustanaŭlalisia stałyja i — što najvažniejšaje — daloka vyšejšyja, čym dahetul byli na volnym zbažžovym rynku.

Hetak—bolš-mienš—išła haspadarka manapolu ŭ praciahu pieršaha hodu (da kanca m-ca červienia 1935 h.). Za hety čas pakazalisia dobryja starony manapolu (zapeŭnieny zbyt, ćviordyja ceny), ale pakazalisia i starony błahija. Staronniki manapolu chvalili jaho dalej, a praciŭniki — damahalisia skasavańnia. Dziela taho što zaviadzieńnie manapolu vymahała ŭkładu vialikich hrošaŭ i sił, jakija vykarystać skora nia možna, „Zbaž. T-va" ŭžo robić starańni, kab manapol pradoŭžyć. Vyrašycca heta maje ŭ niadoŭhim časie. A pokul što staranna źbirajecca ŭsio, što tolki maje jakojeś značeńnie jak za, tak i **prociŭ** manapolu. Dovady hetyja vielmi cikavyja. Usich ich vyličać tut nia budziem. Ale ab niekatorych z ich treba ŭspomnić.

Lišnie havaryć ab karyściach manapolu dla tych haspadarak, jakija šmat zasiavajuć u siabie zbožža. Inakš adnak pradstaŭlajecca ŭžo sprava dla ziemlarobaŭ, haspadarki katorych majuć kirunak buračany ci hadaŭlany: hetyja haspadarki, pieravažna drabniejšyja, majuć na prodaž darahoha zbožža mała, abo i zusim jaho nia majuć, zatoje patrabujuć dla žyvioły pašy, katoraja pry manapolnych paradkach padaražeła. Dalej, vysokija ceny na zbožža pry manapolnych paradkach, heta niemałaja pakusa dla ziemlaroba siejać bolš zbožža jak dahetul; a zakon, jak my bačyli pierš, vymahaje, kab zbožža siejać mienš. U kancy kancoŭ pryvatny interas časta, vielmi časta, pieramahaje i płošča zbažžovych zasievaŭ sapraŭdy pavialičvajecca. U rezultacie ahulny zapas zbožža ŭ kraji pavialičvajecca jašče i dziela taho, što vyšejšyja ceny na zbožža pazvalajuć na bolšy ŭkład pracy ŭ toj-ža abšar pola i na lepšaje jahonaje hnajeńnie.

Astanaŭlajučysia na hetych užo rezultatach manapolnaj haspadarki zbožžam, čsł. ŭrad užo parabiŭ šmat źmienaŭ pry skuplivańni ŭradžaju 1935 h. Treba spadziavacca, što pry mahčymym pradoŭžańni manapolu hetyja źmieny, asabliva što da zvastreńnia dahladu za zvužvańniem płoščy absievu zbožžam, pojduć jašče

нажом ці стругом і замазаць садовай мазьзю ці клустай цэгляной глінай, зьмешанай з пятай часьцю на меру сьвежага каровяга гною. Калі мова аб зразаньні, дык яно ня сьмее быць ані за нізкое, ані за высокае; гэта знача зразаць сук трэба над **самым кругам**, які знаходзіцца ў тым месцы, дзе сук выходзіць з пня, ці з другога грубейшага сука. Бо калі мы зробім зрэз ніжэй круга, дык зробім вялікую рану, якая доўга не зарасьце; так сама ня можа зразаць сука і многа вышэй круга, бо тады торчачы адрэзак (пень) ня можа зарасьці, трэпіцца, у рану заходзіць вада, сам сук загніваецца, гніль пераходзіць у ўсё дрэва, у дрэве робіцца дупло, і само дрэва, дзеля неправідловай абрэзкі, без пары гіне.

Доўгія пянькі пры абрэзцы астаўляюць людзі нясьведамыя ў садоўніцтве, што рабіў калісьці й я сам, з тэй добрай людзкой думкай, што доўгія пянькі ня так балючыя для дрэва, як кароткі па крузе абрэз. Тымчасам відзім, як шкодна для дрэва абрэзка сукоў з доўгімі пянькамі.

**Ачышчаньне дрэва. Заліваньне дуплаў.** Пасьля абрэзкі сукоў кароны, на старых дрэвах трэба абавязкава, найлепш у вільготную пагоду, саскрабаць зусюль гдзе толькі ёсьць: мох, лішайнікі і старую кару. У маладых садох дрэвы рэдка маюць паросты моху і лішайнікоў. Мох і лішайнікі вельмі шкодныя для дрэў тым найперш, што яны растуць на дрэве і жывяцца ягонымі сокамі і па другое, у моху і лішайніках гнезьдзяцца розныя жывыя шкоднікі, якія аб'едаюць лісьцё, цьвет і плады, і апрача таго мох і лішайкі пераховываюць і разносяць розную заразу пладовых дрэваў і самых пладоў.

Стрэп'е старой кары, аж да здаровай, трэба саскрабсьці, бо ў шчэлінах яе плодзяцца, хаваюцца і зімуюць тысячы розных шкоднікаў пладовага дрэва. Саскробываць старую кару можна скрабачкамі, вялікім ня зусім вострым тоўстым нажом, ці проста куском зялеза (куском старога зьежджанага падрэза). На старых грушах цьвёрдую кару найлепей саскрабаць скобляй.

Падчас саскробваньня з дрэва моху, лішайкікаў, старой кары, унізе пад дрэва трэба разаслаць старую але цэлую, нядзіравую посьцілку, на якую будуць спадаць з дрэва ўсе паскробкі і іх можна будзе сабраць і **спаліць**. Калі-б іх не сабраць і не спаліць, дык рабакі з іх павылазяць і ўзноў успаўзуць на дрэва.

У садох, дзе дрэвы высокія і моцна абросшыя мохам і лішайнікамі, да вярхоў дрэў трудна са скрабачкай далезьці, там для зьнішчэньня паростаў трэба абавязкава ў працягу двух-трох гадоў кожную вясну перад набуханьнем пупушак (не пазьней!) абпырскаць дрэвы шасьціпрацэнтным (6%) растворам зялезнага купарвасу (siarczanu żaleza). Мацнейшага як і слабейшага ад 5 прац. раствору ня можна ўжываць: першы спаліць многа ліставых пупушак і цьвету. а другі будзе зусім безкарысны, бо за слабы.

Раствор прыгатаўляецца так: бярэцца драўляная пасудзіна, уліваецца ў яе дваццаць літраў цёплай рэчнай ці вазёрнай вады, у якую апускаецца палатняны мяшочак з шасьцю кілёграмамі зялезнага купарвасу і палошчыцца аж да таго часу, пакуль купарвас зусім не разойдзецца. Потым гэты раствор мяшаецца з васьмідзесяцьцю (80) літрамі мяккай летняй вады.

---

dalej.—Druhaja reč, jakaja naśpieła ŭ manapoli na zbožža ŭ Čechasłavaččynie, heta pašyreńnie manapolu i na pradukcyju žyviołahadaŭlanuju.

Nia ŭchodziačy tut u drobiazi manapolnaj haspadarki zbožžam u Čechasłavaččynie, treba adznačyć, što i da hetych pozytyŭnych (dadatnich) rezultataŭ manapolu, jakija ŭdałosia dasiahnuć, možna było dajści tolki dziakujučy biaspłatnaj dapamozie arhanizacyjnaha aparatu miascovych kooperatyvaŭ. Kali-b nie kooperatyvy, nia było-b hramadzkaha ŭśviedamleńnia, biez katoraha ab manapolnym kiravańni haspadarkaj nia možna i dumać.

Kančajučy hety karotki ahlad manapolnaj haspadarki zbožžam u Čechasłavaččynie, nie adrečy budzie prypomnić ab letašniaj haspadarskaj konferencyi ŭ Bad-Eilsen (ŭ Niamieččynie), dzie pradstaŭnik Holandyi, na ździŭleńnie mnohich prysutnych, zajaviŭ, što ŭ ich —u krainie prykładnaj volnaści handlu — manapolnaja (planovaja) haspadarka ŭ kožnym kirunku zrabiła najbolšyja postupy. I tut mnoha pamahła ahulna—vysokaja aśvieta žycharstva i vysoki rovień hramadzkaj jaho daśpiełaści, jakaja zdabyta była pracaj taksama ŭ kooperatyvach.

I naadvarot, u krajoch bałkanskich, dzie kooperacyja choć siahońnia i raźvivajecca, adnak jašče nie paśpieła tak hłybaka pieraarać ludzkija dušy, tam rezultaty „planovaj“ haspadarki skroś nie ŭdalisia.

Aćeńvajučy ŭsie hetyja dasiulešnija rezultaty „planovaj“ haspadarki nia možna nie zhadzicca z tymi, jakija kažuć, što ŭ haspadarcy na daŭžejšuju metu ŭdajecca tolki toje, što jość vyhodnym z pun-tu hledžańnia volnaha pradpryjemcy.

**A. K.**

---

## Prośba da supracoŭnikaŭ:

**Rukapisy praznačanyja da druku treba pisać vyrazna, čarniłam, u redkich radkoch i pa mahčymaści na adnej tolki bačynie.**

---

Раствор прыгатаўляецца залежна ад патрэбы — ў большай, ці меншай колькасьці літраў вады.

Адзін кілёграм зялезнага купарвасу каштуе каля 30 грашоў.

Адкрытыя дуплы ў старых дрэвах трэба чыста вычысьціць, пасьля насыпаць у іх сухога дробнага ці шчапанага каменьня і заліць да верху густа разьведзенай вапнай ці цэмэнтам. Пасьля гэтага дрэва перастане ў сярэдзіне гніць і зьверху рана скора зарасьце, калі толькі само дрэва не запушчана і мае добры выгляд.

Шмат на якіх пладовых дрэвах можна знайсьці сухія, зморшчаныя маленкія яблычкі і сухое, скручанае павучыньнем лісьцё, якое моцна трымаецца праз зіму да самой вясны. Яблычкі гэтыя і лісьцё трэба канешна сабраць і спаліць: яблычкі разносяць плямісты грыбок, які пляміць і псуець нашыя плады, а ў скручаных лісточках зімуюць чарвячкі (гусеніцы) баярышніцы, якія з наступленьнем цёплай вясьнянай пагоды выходзяць з зімовых гнёзд і пачынаюць аб'ядаць лісьцё і цьвет. Дзеля гэтага, як яблычкі, так і скручанае лісьцё трэба зьняць да прыходу цяпла.

Зімой і вясной, да часу распусканьня лісьця ў садку, на тоненькіх як гусінае пяро сучкох можна часта спаткаць шэранькія, быццам з маку зьлепленыя колцы (напарсткі). Колцы гэтыя на вошчуп цьвёрдыя. Іх трэба зьняць, або з сучком зрэзаць і спаліць, бо гэта яйкі матыля персьценіцы. З кожнага яечка выйдзе вясной досыць вялікі паласаты чарвячок, падобны да капуснага, які адразу прыймецца аб'ядаць маладыя лісточкі на дрэвах.

**Падчыстка і пабелка дрэваў.** Па заканчэньню абрэзкі дрэваў і падчысткі ад моху і лішайнікаў, трэба ў усіх дрэвах у садзе пабяліць усе пні і тоўстыя сукі, як толькі можна дастаць, вапнай, з дамешкай сьвежага каровяга гною.

Вапна да бяленьня мусіць быць нягашаная, гэта знача яшчэ ў каменьнях, а ня ў муцэ. Старая вапна нічога ня варта. На кожнае вядро разьведзеннай як сьмятана вапны дадаём палавіну (1/2) кілёграма сьвежага каравяку. Абмазка з каровяком двойчы даўжэй трымаецца на дрэвах. Пабелку дрэў найлепш рабіць зімой пад вясну.

Вапнаваньне дрэў карысна для саду тым: пад канец зімы пабеленыя дрэвы ў ясныя дні моцна ад санца не награваюцца і на дрэвах ня бывае спаленых сонцам мясцоў, на якіх праз гады два-тры злазіць кара, і дрэвы потым стаяць з чорнымі палосамі дрэва без кары.

Вапнай дэзынфікуем дрэва, залепліваем усе шчэлкі ў кары і разам жывых шкоднікаў і іх яйкі. Кара пасьля пабелкі становіцца мякчэйшай, ня сьціскае дрэва як бляха, і дрэва лепей расьце.

Хто мае сад стары і дрэвы пасаджаны вельмі густа, там няма іншай рады, як толькі горшыя, слабейшыя дрэвы выкінуць, а тыя, што астануцца, лепш на прасторы пачнуць расьці і лепш аплацяцца.

**Абпырсківаньне пладовых дрэў.** Абпырсківаем пладовыя дрэвы на тое, каб зьнішчыць рабакоў і розныя заразныя хваробы пладоў і дрэў.

Абпырсківаем дрэвы чатыры разы ў год. Першы раз абпырсківаем садоўніцкай карболінай 5 проц. удзень ціхі і не марозны, у канцы сакавіка ці ў пачатку красавіка (да часу распусканьня пупушак), каб зьнішчыць яечкі розных шкоднікаў; другі раз 1 проц. (адна працэнтным) растворам бордоскай цечы з дадаткам сто (100) грамаў парыскай зелені, перад самым цьвіценьнем, як толькі пупушкі заружавеюць. Гэта самае важнае абпырсківаньне на зьнішчэньне грыбка плямістага. Трэці раз абпырсківаем поўпрацэтнай (1/2%), бордской цечай з дадаткам 100 грам. парыскай зелені на сто літраў цечы. Чацьверты раз абпырсківаем паўпрапэнтнай (1/2%) бордоскай цечай, калі плады дарастуць да велічыні ляскавага гарэха.

Пры другім трэцім і чацьвертым абпырсківаньні можна замест бордоскай цечы узяць каліфорнійскую цечу з дадаткам на каждыя сто літраў цечы, дзьвесьце пяцьдзесят (250) гр. алавянага аршэніку.

Каб у нашых садох найменш было ўсякіх шкодных рабакоў, кожны уласьнік саду мусіць у садку мець хоць пару дуплянак ці скрыначак на гнёзды для шпакоў. Ведаю добра з сваей уласнай практыкі, як многа шпакі дапамагаюць садаводзтву.

Сады мусяць быць чыстымі ад траў і розных сарнякоў. Пожні ў садку ніколі ня можа быць, зямля мусіць быць на плошчы усяго саду ўзорана. На ворнай зямлі каля дрэў палосы мусяць быць перакопаны. Сады трэба ўгнаіваць. Гной трэба класьці зьверху і пасьля няглыбака абарываць і прыкрываць. Хто мае ў сябе вішні і сьлівы, якія цьвітуць, а ня родзяць пладоў, той павінен пад кожнае дрэва пасыпаць ад аднаго да двух кілёграмаў вапны пад усей каронай і за каронай сантымэтраў па восемдзесят (80) і перакапаць з зямлёй.

—о—

У старых садох вельмі часта і многа прыходзіцца спатыкаць дрэў зусім высахшых, каля пнёў якіх ёсьць ня мала адросткаў дзікіх. З гэтых адросткаў трэба выбраць адзін лепшы і прышчапіць, а стары сухі пень зрэзаць. Садовая практыка паказала, што куды лепш прышчапіць такі дзікі адрасток, чым выкарчовываць старое дрэва і на месца яго садзіць маладое.

**Іван Сікора.**

Дня 16 сакавіка 1936 г.
Пошта Варапаева,
павет Пастаўскі.
Садаводзтва К. гр. Пржэздзецкага.



*PČALARSTVA*

# U pčalniku viasnoju.

Žyćciadziejnaść pčołaŭ pačynajecca z prybližeńniem viasny, heta zn. ŭ pałavinie lutaha. Matka pačynaje składać spačatku mała jaječak, a potym, kali pavyšajecca vonkavaja temperatura ŭ pčalniku, dyk składaje bolš. Pčaliny kłubok vykazvaje štoraz bolšuju enerhiju, spažyvaje bolš miodu. Ad hetaha ŭ vuli padvyšajecca temperatura patrebnaja da ŭtrymańnia žyćcia i ŭzhadavańnia maładoha pakaleńnia. Temperatura z 13,9°C padnosicca da 25°C. Pčalar pavinien u hety čas źviarnuć bolšuju ŭvahu na toje, kab pčołam nie pieraškadžali kryki, biehańnie bydła i ŭsiakaje biespakojstva. Kali temperatura ŭ pčalniku acieplicca i pčoły pierakanajucca, što ničoha dren naha im nie pahražaje, to pačynajuć svoj pieršy silny ablot. Abaviazkava tre', kab u časie ablotu pčołaŭ byŭ u pčalniku sam pčalar i pilna sačyŭ lot kožnaha pnia. Užo z samaha lotu možna paniać, jak roj vyjšaŭ pośle zimy, a heta ŭžo maje vialikaje značeńnie na budučyniu. Ad pieršaha lotu pčołaŭ, možna skazać, pačynajecca viesnavy pčalarski sezon, u katorym tre' ad samaha pačatku haspadaryć racyjanalna, kab dajści da najbolšaha raźvićcia pčalinaj siamji, a paśla miodu z kožnaha vulla. Vot-ža, paŭtaraju, pčalar dziela taho pavinien być u pčalniku z ałavikom i zapisnoj knižkaj i zapisać pni, katoryja ablotalisia enerhična, katoryja słaba, a katoryja zusim nie ablotalisia. Jak viedama, pčoły pry pieršym ablocie ačyščajuć svaje žałudki ad zimovaha kału. Pa hetym kale možna paznać, ci pčoły chvoryja ci zdarovyja. Kał redki, vadzianisty pakazvaje na niastraŭnaść.

Treba tady, pa skončanym ablocie, padniać vul i prahledzić jahonaje dno i vaščynu z nizu hniazda. Kali i tam ubačym hetkaje źjavišča, dyk treba być peŭnym, što pčoły chvoryja na łaksu. Takim pčołam dajecca biezadkładna hustuju padkormku z cukrovaha syropu (2 šklanki cukru na 1 šklanku vady) ŭ bolšaj kolkaści napr. 1 litr, z damieškaj kvasu salicylovaha, 4 grany (nia gramy!) na litr, na nač, z hary vulla. Pčoły, katoryja nie ablotalisia, nia treba adnak niepakoić, kali bortnik peŭny, što zapasnoha miodu chopić na ciapierašni čas, ščvierdzić tolki music, ci hetyja pčoły žyvuć. Što inšaje, kali-b bortnik dahadvaŭsia, što ŭ vulli zapasy miodu ŭžo končylisia i pień nia vylataje z pryčyny hoładu: tady treba ratavać pčoły ad haładavoj śmierci.

Kali pčoły ablotalisia i ŭspakojacca, treba sačyć ich zachavańnie. Pčoły ŭ narmalnym paradku pośle ablotu asiadajuć i pravodziać čystku svajho pamieškańnia. Takija pni astaŭ lajem i zapisvajem u dniaŭniku, što vul X Y u paradku. Kali-b pčoły nie supakoilisia, ablot ich praciahaŭsia-b (paŭtaraŭsia-b), tady treba dahadvacca, što takija pni zhubili matku. Hibiel matki paćviardžajecca taksama biespakojstvam pčołaŭ: jany žvava biehajuć pa ścienkach vula, raspoŭzvajucca, byccam niešta šukajučy, šum pčoł byvaje tady žałasny, piskli-vy i źmienny. I takija pni treba zapisać, kab ŭ najbližejšym časie pry ciopłaj pahodzie hruntoŭna ich zrevidavać.

Uspakoiŭšysia paśla ablotu, pčoły pačnuć adny ačyščać svajo pamieškańnie, a druhija pojduć za vadoju. Dziela taho, kali byli-b u pčalniku łužy adkrytaj vady, šmat pčołaŭ moža ŭ joj patapicca. Kab hetaha nia było, pčalar pavinien pierad ablotam zasłać adkrytyja łužy sałomaj, abo zasypać miakinaj. Biespasredna pa ablocie, kali-b pahoda spryjała, bortnik prystupaje da čystki dna vulla ad trupoŭ i pazimovaha śmiaćcia. Rabotu hetkuju treba vykonvać u dvuch, z pamocnikam. Adzin aściarožna padyjmaje (u Dadan-Blatta) frontavuju čašć vulla, apirajučy zadniuju na łatach padstaŭki, druhi — žvava zabiraje dno, trupy i śmiaćcio ssypaje ŭ niejkaje načyńnie, dno čysta vyciraje, a na't myje i spraŭna jznoŭ na miesca ŭstaŭlaje. Zapisvajecca tak ža i kolkaść trupoŭ i ich vyhlad, kab dajści paśla da pryčyny drennaha, kali tak zdarycca, pierazimavańnia. Revizyi pry ablocie padrabiaznaj nia možna rabić z pryčyny panižanaj temperatury. Ščvierdžanyja pry pieršym ablocie pčoły—biazmatki, kali paciapleje, złučyć pryjdziecca z inšym słabym pniom. Nia treba złučać, kali matka zhinuła ŭ časie ablotu, a roj silny i ŭ pčalniku jošč zapasnaja matka. Tady sprava lohkaja: dajom matku i silna padkormlivajem, kab matku pabudzić da dziejnaha čarvieńnia.—Padkormku, jakuju pryjdziecca davać rańniaj viasnoj, kali ŭ poli jašče niama miadadajnych raślin, kaniešna treba davać hustuju i šmat (najmienš 1 litr). U praciŭnym vypadku pčoły pačnuć vylatać u pole i tam hinuć ad ściužy. Padkormku redkuju, „na čer“ dajecca ŭ pačatkach traŭnia, kali temperatura acieplicca i nia budzie niebiaśpieki hibieli pčoł.

Najvialikšym sakretam pčalarskaj haspadarki ŭ rańniuju viasnu jošč dastatak miodu ŭ vuli da pražyćcia i ŭzhadavańnia čeru. Kali niama miodu, dyk dajom cukar biaz nijakich damiešak.—Apráča miodu, pčoły ŭ hetym časie patrabujuć tak-ža i ciel biełkavatych, a pradusim piarhi (pyłok z ćvietu). Kali b jaje nia było ŭ vakolicy na naturalnych kvietkach, dyk treba davać pčołam pšonnuju muku najlepšaha hatunku. Muka stavicca ŭ pčalniku na adkrytym miescy, na vierch kładziecca parezanaja sałoma, kab pčoły nie tapilisia.

Niekatoryja pčalary ŭ apošnim časie radziać davać inšyja pradukty biełkavyja, jak jajki i małako. Dobry heta sposab, adnak vymahaje praktyčnaj padhatoŭki, bo treba takuju ježu łučyć z syrapam i tak miarkavać, kab nia dać za šmat, bo moža sapsavacca, a tady pčoły chvarejuć.

Kali ŭžo ŭ pryrodzie pakažacca zbor piarhi, tady muku treba pryniać.

Z nastańniem ciopłych dzion krasavika možna pravieści padrabiazny pierahlad całaha pčalnika, revidujučy ŭsie vulli. Ciapier-ža prad revizyjaj ƚortnik pavinien tolki śladzić pilna, kab nia było hałodnych pčołaŭ, biazmatak i chvorych. Hałodnyja pčoły biezadkładna padkormlivajem hustym syrapam, abo miodam i stavim u pčalniku muku. Biazmatki łučym u ciopłyja dni, abo, kali jość zapasnaja matka, dadajom jaje padkarmiŭšy cukram. Chvoryja na niastraŭnaść pčoły — ničoha strašnaha. Padkarmiŭšy kolki razoŭ cukrovym syropam z kvasam salicylovam — azdaraviejuć. Nozema i laksa pavinnyja tak-ža prajšci pa silnaj padkormcy.

Ciapier treba ŭ racyjanalnaj haspadarcy ahledzić padstaŭki vuloŭ i kali b byli hniłyja, źmianić novymi. Aprača hetaha, treba pryhatović zapasnyja vulli da letniaha sezonu, uparadkavać usie pčalarskija instrumanty i mašyny sapsutyja napravić, a taksama naładzić pčalarskija knihi, biez katorych trudna dumać ab pastupovaj dachodnaj pčalarskaj haspadarcy.

23.III.1936.

**Vacłaŭ Papucevič.**

## Złučvańnie rajoŭ.

Viasna jość najlepšaj paroj dziela złučvańnia rajoŭ — biazmatkaŭ z rajami słabymi na muchu, ale zdarovymi i majučymi matku. Treba złučvać taksama dva słabyja rai, bo nia možna trymać u pasiecy rajoŭ słabych.

Sposabaŭ złučańnia jość šmat, jak šmat jość pryčyn, dziela jakich pčoły złučajucca. Pry ŭsiakim złučańni adnak treba viedać, što pčoły paznajucca niucham i nie zaŭsiody achvotna łučacca. A byvajuć vypadki (naprykład: kali abodva rai majuć matku, ale adna z hetych matak jość niapłodnaj), kali złučanyja pčoły na śmierć ścinajucca. Dziela hetaha treba viedać, jak u kožnym vypadku pastupać.

Najlahčej złučać pčoł u vulli-dvajaku: ad raja, jaki chočam skasavać, zabirajem matku i ŭsie ramki z čeram i robim u pieraharodcy da susiedniaha roju dzirku, praz katoruju pierachodziać usie pčoły ŭ vulej z matkaj i mirna złučacca.

Inakš užo treba pastupać z słabymi vullami ci biazmatkami stojačymi ŭ susiedztvie. Štodzień pasuvajucca abodva pni na piadziu da siabie, až pakul nia stanuć zusim pobač siabie i tady tolki prystupajem da samaha złučańnia. U vulli, da jakoha majem padsypać, zakładajem ščylnuju ad vierchu da nizu pieraharodku. U hetaj pieraharodcy robim vakonca, jakoje pieraharadžvajem sietkaj (dracianoj) na hetulki hustoj, kab praz jaje nie mahli pieraŭazić pčoły, ale kab mahli niuchacca i hetym asvojvacca. Za hetaj pieraharodkaj staŭlajecca ramka z miodam i na jaje źmiatajecca ŭsia mucha z roju, jaki kasujecca, zabirajecca matka, kali jana ŭ hetym vulli była i zapirajecca vul. Za dva dni pčoły tak paznajucca i abniuchajucca, što možna ŭžo vyniać pieraharodku i pčoły złučacca zusim mirna.

Kali-ž vulli, jakija majemsia złučać, stajać voddal ad siabie, treba pastupać hetak: viečaram z vulla, jaki kasujem, źmiatajem muchu ŭ rajnicu (kali rajnicy niama, dyk u łubku ci ŭ ščylnuju karzinku), źvierchu skraplajem zahadzia pryhatavanaj sytaj i padnosim da vulla, u katory chočam sabranyja pčoły upuścić. Pčoły-haspadary, bačačy prychodziačych pčoł-haściej dy nia z pustymi rukami a z dobrym pasaham (ableplenyja sytaj), pryjmajuć ich zvyčajna achvotna i ablizvajuć sytu. Na druhi dzień padsypanyja pčoły zvyčajna varočajucca na staroje miesca, ale nie znajšoŭšy vulla svajho, varočajucca ŭznoŭ u toj vul, kudy jany byli padsypanyja. Hety sposab pčalary ŭžyvajuć vielmi časta.

**Š—k.**

*AD NAŠYCH PČALAROŬ.*

## Pieršy ablot pčołaŭ.

**Małaja Alšanka, Horadzienskaha paviletu.**

Pieršy ablot pčołaŭ ŭ našym 30 pniovym pčalniku. byŭ 28.II. Pahoda była vielmi pryhožaja, hadzina 10 ranicy. Temperatura ŭ pčalniku 10°C. Viecier zachadni z chutkaściaj 5 m/sek. Śnieh lažaŭ jašče pad kustami ahrestu, parečak, a pobač vulloŭ stajali łužy vady. Pieršy pačaŭ ablot roj № 17 ŭ aśklonym vulli Dadana-Blatta. Dziela abarony pčołaŭ ad mahčymaj tapieli, łužy vady ŭ celym pčalniku byli pakryty miakinaj i sałomaj. Ablot vulla № 17 byŭ vielmi enerhičny i možna było ścvierdzić pa zaniačyščeńni vulla pčalinym kałam, što pčoły chvoryja na laksu. (Heta najbolšaja trahedyja našych pčalnikoŭ). Dalej, vielmi viasioła lotaŭ pień № 4 (vul Dadana pašyrany) i možna było paznać, što heny pień saŭsim zdarovy, mała było ŭ im apadu trupoŭ. Na druhi dzień 29.II ablotalisia ŭsie pni, z vyniatkam vulloŭ Varšaŭskich № 1, 2, 3 i čynki № 2. Kaloda № 3 ablotałasia 1.III.

Kali chodzić ab pierazimoŭku i zdaroŭje pčołaŭ, to sprava pradstaŭlajecca hetak: Usie pni pierazimavali ŭ celaści. Niastraŭnaść była zaŭvažana ŭ nastupnych vulloch: Dadan-Blatta № 17 aśklony, № 8 i 5, Varšaŭski № 4,5,6,7 Levickaha № 1 i 2. Niedachop miodu ścvierdžany byŭ u Dadan.Blatta № 17 aśklony i Varšaŭski № 5 i 7. Dziela taho, što ciapier nia

Redaktar inž. A. KLIMOVIČ Vydaviec A. DASIUKIEVIČ
Z upavažnieńnia Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury ŭ Vilni.

Biełaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny, Vilnia, Zavalnaja 1 — 2.

možna pierahladać pčołaŭ z pryčyny panižanaj temperatury, nia možna było bližej ścvierdzić usich niedachopaŭ žyćcia pčołaŭ. Zarażža pa ablocie ŭsie ablotanyja vulli byli padmiecieny i padčyščana dno. Najbolš trupoŭ było ŭ vuli aśklonym № 17, dalej, u Varšaŭskim № 4, 5, 6, 7. Najmienš—u pašyranuju Dadanie № 4, № 6 12 i 15.

Pleśni na dnie i ścienkach byli ŭ aśklonym Dadanie № 17, Lavickaha № 2. Najsušejšy byŭ Čuпka № 1.

Trupy, pleśni i śmiaćcio było sabrana, zalita miašanaj vapnaj i zakapana ŭ ziamlu. Apryča hetaha ŭsie spaściarohi byli zapisany ŭ pčalarskim dniaŭniku.

Z vyšejpadanaha jasna vidać, što najhorš pierazimavali aśklony vul Dadan-Blatta № 17. Tłumačycca heta tym, što jon dziela dośledaŭ mieŭ uzimku niezakrytyja šyby. Šyby, viedama, nastyvali i ad hetaha ŭ vulli było šmat vady, a zhetul źjavilisia pleśni i hniła mnoha pčołaŭ, a rešta zachvareła na niastraŭnaść. Adnak siła roju nie apała da bieznadziejnaści — U vulloch Levickaha i Varšaŭskich drennaju, była ventylacyja i dziela taho šmat trupoŭ, syraści i laksy. Miodadajnych kvietak i piarchi jšče u majej vakolicy, heta znača ŭ paviecie Horadzienskim, nia było zanatavana.

**Stanisłaŭ Papucevič.**

*З жыцьця коопэратываў*

## Як працавала наша коопэратыва ў 1935 г.

Для нашай спажывецкай коопэратывы „Самапомач“ мінулы 1935 год ня быў зусім памысным. Аднэй з прычын гэтага быў пажар, які выпаліў аж 40 дамоў, пераважна клиентаў і сяброў коопэратывы. Другая рэч, якая завініла зьмяншэньне абаротаў у коопэратыве, гэта няўдача з вырабам сыроў, якія выраблялiся ў летніх месяцах. Гэтыя і падобныя прычыны абніжылі пакупную здольнасьць нашага сялянства, якое змушана было аграніччыцца да купляньня самых толькі артыкулаў першай патрэбы, як соль, серчыкі, ну і махорка. Усё-ж гэта, як ведама, зманапалізавана, дык і гандаль імі ледзь-ледзь толькі пакрывае кошты дастаўкі.

Незважаючы аднак на ўсе гэтыя няспрыяючыя варункі, коопэратыва прадставіла гадавому сходу на замортызаваньне рухомасьцяў і іншыя адпісы аж 600 зл. 20 гр. Гэткі рэзультат працы трэба лічыць бязумоўна ўдачным.—Да непажаданых праяваў гаспадаркі ў коопэратыве трэба залічыць доўг самай коопэратывы ў дастаўцоў і прадажа тавараў на павер (крэдыт) сябром мясцовай малачарскай коопэратывы. Праўда, гэты крэдыт нібы і загварантаваны самой малачарняй, але ўсё-ж сам факт крэдыту ёсьць зьявішчам непажаданым, тымбольш калі ён з 334 зл. 98 гр. у 1934 г. узрос да 857 зл. у 1935 г. Дражлівая таксама справа з сплачываньнем паёў. Паевы капітал у мінулы 1935 годзе ня толькі не падвышыўся, але наадварот — абніжыўся: з 648 зл. 36 гр. у 1934 г., на 620 зл. 86 гр. — у 1935 г. Усё гэта разам узятае ня сьведчыць аб прыкладнай рупнасьці ўправы коопэратывы: магло-б хіба быць лепш.

Не на карысьць коопэратыўнай сьведамасьці нашага сялянства сьведчыць і той факт, што 40 прац. гандлёвага абароту коопэратывы ў справаздаўчым годзе было з несябрамі. Доказ гэта, што ў гэтым годзе трэба ўсімі сіламі старацца павышыць коопэратыўную сьведамасьць сярод нашага сялянства і вэрбаваць (запісваць) яго ў сябры коопэратывы.

Кожнага павінен праканаць той факт, што зашчаджаныя за год нашай коопэратывай 600 зл., гэта наяўная карысьць, якая асталася-б у кішані прыватнага крамніка, калі-б ня было коопэратывы, і якая сягоньня можа быць выкарыстана нашымі людзьмі на справы агульнай карысьці. Могуць цяпер сябры нашай коопэратывы гэту суму празначыць на будову ўласнага народнага дому, на кніжкі, газэты, радыёвыя апараты, на закуп аднэй ці нават колькіх сельска-гаспадарчых машын, якімі—ясная рэч — маглі-б карыстацца перад усім сябры коопэратывы.

Наша коопэратыва існуе ўсяго трэці год. Зроблена ўжо ня мала, але больш яшчэ трэба зрабіць: трэба йшчэ ў самой коопэратыве завесьці аддзелы мануфактуры, кухоннай пасуды, расшырыць аддзел галянтэрыі. А трэба таксама падумаць на будучыню і аб уласнай мясарні і нават пякарні. На ўсё гэта патрэбны грошы. Дзеля гэтага сьвядомыя сябры коопэратывы не павінны квапіцца на невялікія звароты ад закупаў, але мусяць на агульным сходзе ўсю надвыжку празначыць у запасны фонд і фонды спэцыяльныя, а нават павінны павялічыць сяброўскія паі да вышыні прынамсі 25 зл., каб паявы капітал рахаваў прынамсі 10.000 зл., а не, як дагэтуль, ня цэлыя паўтары тысячы.

Дык да працы. Сабе на карысьць і другім у прыклад!

Вялікая Ліпа. 2.III.1936. пав. Нясьвіскі. **М. С.**

## Наша пошта.

Усім, хто прасіў пробных нумароў „Самапомачы“: часапіс высланы і далучаны разрахунковыя пераказы, каторымі просім прысылаць падпіску.

А. Мілюцю: Атрымалі, зробім так, як просіце. Асобным пісьмом не адказваем. Як працуе Ваша коопэратыва?

Рамановічу: З Вамі выйшла абмылка, за каторую моцна перапрашаем. Справа цяпер высьнілася і думаем, што Вы ўжо ўсё атрымалі. Далей усё пойдзе натуральнай дарогай.

Н. Кішко. Дзякуем, што зьвярнулі ўвагу. Абмылка папраўлена. Вам цяпер будзем высылаць два камплеты. Прывітаньне.

